# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 9 (2255) 27 лютага 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).

АД СЭРЦА ДА СЭРЦА



## НЯХАЙ БУДЗЕ ПАЧУТА МАЛІТВА

Пасля капітальнага рамонту ізноў пачаў працаваць адзін з карпусоў радзільнага аддзялення Мінскай гарадской бальніцы № 7. Падзея, на першы погляд, быццам бы звычайная, калі ўлічыць, што ледзь не кожны дзень у сталіцы Беларусі вырастаюць шыкоўныя адміністрацыйныя, гандлёвыя будынкі, гмахі жылых дамоў.

А тут звонку ніякіх архітэктурных пераўтварэнняў не адбылося. Таму і не выклікала гэта падзея асаблівай увагі ні ў радавых грамадзян Мінска, ні ў адміністрацыйных улад.

А што змянілася ўнутры рэканструяванага корпуса? Чаму наогул патрэбна было праводзіць капітальны рамонт у параўнальна яшчэ прыгодным для функцыяніравання медыцынскім будынку? Адкуль узялі сродкі?..

Гэтыя і іншыя пытанні мы задалі намесніку галоўнага ўрача бальніцы Эльвіры Бурдавіцынай. Вось што яна расказала.

— І сапраўды, вострай неабходнасці ў рэканструкцыі і капітальным рамонце гэтага корпуса не было: будынак не вельмі стары. Але нас хвалявала, што тут не было пэўных умоў для парадзіх і для медыцынскага персаналу, не хапала абсталявання. Скажам, у адной палаце маглі знаходзіцца па 15 парадзіх. Становішча не зусім нармальнае.

Пасля рэканструкцыі з'явіліся палаты на 1—2 і, як выключэнне, на 3 пацыенткі. Ёсць спецыяльныя пакоі, дзе маці можа знаходзіцца толькі са сваім немаўляткам, пакоі для пацыентак і іх дзяцей, якія маюць нейкія адхіленні: датэрміновае нараджэнне дзіцяці, цяжкія роды і г. д.

Кабінеты абсталяваны найноўшай апаратурай... І ўсё гэта дзякуючы гуманітарнай дапамозе. У першую чаргу з боку Свята-Алексіеўскага храма-помніка Рускай славы, што знаходзіцца ў Лейпцыгу, і ордэна іанітаў з Германіі. Яны выдзелілі сродкі на рэканструкцыю нашага корпуса і на набыццё неабходнага абсталявання.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

**НА ЗДЫМКУ:** у час асвячэння рэканструяванага корпуса.

Фота В. СТАВЕРА.

**Побач з імем Кастуся Каліноўскага ў апошнія гады вучоныя ўсё часцей ставяць імя яго старэйшага брата Віктара. А што мы ведаем пра яго! Амаль што нічога —толькі агульныя звесткі. Ды вось Вячаславу Шалькевічу з Беларускага дзяржаўнага універсітэта, вядомаму чытачам «Г. Р.» па шматлікіх публікацыях у нашай газеце і па кніжцы пра Кастуся Каліноўскага, выдадзенай рэдакцыяй на беларускай і англійскай мовах, удалося натрапіць у кнігасховішчах Польшчы на каталог кніг асабістай бібліятэкі Віктара Каліноўскага.**

**Чытайце ў наступным нумары артыкул В. ШАЛЬКЕВІЧА «Бібліятэка Віктара Каліноўскага».**

ВЫСТАЎКА КАРЦІН АМЕРЫКАНСКАЙ БЕЛАРУСКІ Г. РУСАК

## РАДЗІМА—РАЙ

Доўга чакалі выстаўку Галіны Русак, якая планавалася, але пераносілася некалькі разоў па розных аб'ектыўных прычынах. Урэшце яна адбылася цаной намаганняў Беларускага фонду культуры, таварыства «Радзіма», дырэкцыі Дзяржаўнага мастацкага музея і БНФ «Адраджэнне».

Першым ініцыятарам, прапагандыстам гэтай выстаўкі быў Валянцін Сільвясюк: гады два назад на пасяджэнні аб'яднання маладых мастацтвазнаўцаў «Калегіум», што створаны пры часопісе «Мастацтва Беларусі», зачыталі ліст з Амерыкі, які прыйшоў ад маладога мастацтвазнаўцы-беларуса, пачуўшага перадачу пра «Калегіум» па радыё «Бі-бі-сі» і пажадаўшага наладзіць з намі творчы кантакт. Гэта і быў Валянцін Сільвясюк — беларус з Беласточчыны, які ў той час навучаўся ў Нью-Йорку. Неўзабаве ён і сам прыехаў на Беларусь і патрапіў на пасяджэнне «Калегіума». Як мы не маглі тады нагаварыцца! Колькі цікавых жыццёвых і прафесійных мастацтвазнаўчых тэм перабралі! Тады Сільвясюк і расказаў пра цікавую мастачку з Амерыкі, нашу зямлячку. якая хацела б наладзіць у Мінску сваю выстаўку.

І вось вернісаж. Дваццаць жывапісных твораў розных перыядаў (з 1969 года — самы ранні і апошні — «Чарнобыль», напісаны ў 1991 годзе) размясціліся ў адной з залаў Дзяржаўнага мастацкага музея — самай прэстыжнай галерэі ў рэспубліцы. Народу шмат — не развярнуцца. Гараць чырвоныя лямпачкі тэлекамер, гучаць беларускія народныя песні ў выкананні дзяўчат з «Талакі», прысутнічае мноства журналістаў — яны бяруць інтэрв'ю ў арганізатараў выстаўкі і Валянціна Сільвесюка, што спецыяльна прыехаў на адкрыццё выстаўкі, каб расказаць пра Галіну Русак, яе творчую і грамадскую дзейнасць у асяроддзі беларусаў Амерыкі.

На жаль, сама мастачка не змагла прыехаць на адкрыццё з тае прычыны, што абраная старшынёй камітэта пабудовы бібліятэкі ва універсітэце штата Нью-Джэрсі, і зараз у гэтай справе вельмі адказны перыяд. Але яна мае намер абавязкова прыехаць на чарговы вернісаж сваіх работ, бо плануецца паказ экспазіцыі па розных гарадах рэспублікі на працягу 1992 года. У бліжэйшы час з місіяй дапамогі ахвярам Чарнобыля і іншымі дабрачыннымі справамі на Беларусь прыязджае яе муж Васіль Русак — вядомы грамадскі і праваслаўны дзеяч.

Выстаўка спадарыні Галіны Русак вельмі ўразіла, хаця я, здаецца, добра ведала яе творчасць па многіх слайдах, рэпрадукцыях, што паказваў Валянцін Сільвясюк, і багата ілюстраванаму каталогу, выдадзенаму ў Амерыцы ў 1989 годзе. Уразілі прапорцыі твораў — побач з імі адчуваеш сябе гарманічнай часцінкай гэтага Свету — Свету яе творчасці, мадэляванага з жыцця. Карціны па памерах не малыя і не вялікія, а якраз такія, якія здатныя набліжана да рэалій выявіць і канкрэтную натуру, і суразмерны ёй абстрагаваны вобраз, пры гэтым без прэтэнзій на ўскладнёную філасофію, але з паглыбленай пранікнёнасцю, развагамі і грунтоўнасцю ведаў пра тое, пра што гаворыцца ў творы.

Другое, што звярнула на сябе ўвагу, — выразная разнапланавасць прадстаўленых твораў, у якой ясна праглядаюцца тры выяўленчыя стылі. Сама Галіна Русак пацвердзіла гэтае ўражанне ў лісце, што суправаджаў дакументы да выстаўкі, падзяліўшы экспазіцыю на наступныя групы карцін: імпрэсіяністычныя, раслінныя і стылізаваныя як бы пад раслінна-арнаментальныя тканіны.

Карціны першай групы, стварэнне якіх прыпадае на 60-я гады, прываблііваюць тонкай каларыстыкай, паэтычнай напоўненасцю, вызначальнымі жывапіснымі якасцямі твораў. Яны выклікаюць уражанне непасрэднай прывязанасці да натуры, у той час калі паказаныя на выстаўцы творы іншых кіраўнікоў — абстрагаваныя ад канкрэтыкі выяўленчыя фантазіі.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

**НА ЗДЫМКУ:** Галіна РУСАК. «Чарнобыль». 1991 год; «Пагоня». 1988 год.





НАРАДА СНД

**Чарговая, пятая, нарада кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін —членаў СНД, якая адбылася ў Мінску ў сярэдзіне лютага, выклікала станоўчыя эмоцыі, бадай, толькі ў Станіслава Шушкевіча, старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. У большасці ж лідэраў у ацэнцы сустрэчы пераважае пачуццё стрыманага аптымізму: можа неяк захаваецца Садружнасць. Падпісана рэкордная колькасць дакументаў — аж 20. Але толькі 8 з 11 членаў СНД выказаліся за адзіныя ўзброеныя сілы.**

**А Захад усё ламае галаву: што ж такое СНД! Ясна адно— гэта не краіна, не ўрад і не адзіны ваенны блок.**



**НА ЗДЫМКУ: Старшыня Савета Міністраў РБ В. КЕБІЧ і Прэзідэнт Расіі Б. ЕЛЬЦЫН адказваюць на пытанні журналістаў аб выніках сустрэчы ў Мінску.**

НОВЫ МУЗЕЙ

## «ПОКЛІЧ»

**У Мінску, у Траецкім прадмесці, пачаў сваю работу Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры.**

**На адкрытай тут выстаўцы «Покліч» прадстаўлены матэрыялы аб першай сусветнай вайне, Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцыях, утварэнні БНР і БССР, узнікненні літаратурных аб'яднанняў «Маладняка», «Узвышша», «Полымя», Бел АПП, развіцці драматургіі і акадэмічнай крытыкі, літаратуры Заходняй Беларусі. Многія з гэтых матэрыялаў яшчэ нядаўна былі забаронены, і толькі сёння музей мае магчымасць даволі аб'ектыўна пазнаёміць вас з літаратурнай сітуацыяй, што ўзнікла ў нашай рэспубліцы ў неспакойныя часы паміж першай і другой сусветнымі войнамі.**

КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

## МІЛІЦЫІ РАБОТЫ ЎДОСТАЛЬ

**Як паведаміў міністр унутраных спраў Беларусі Уладзімір Ягораў, рост злачыннасці ў 1991 годзе скараціўся на 6 працэнтаў. Асабліва важна, што скарацілася група цяжкіх злачынстваў — забойстваў, разбояў, згвалтаванняў. Летась раскрыта 74,8 працэнта ўсіх учыненых у рэспубліцы злачынстваў. Але, як прызнаў міністр, за астатнімі 25,2 працэнта — тысячы злачынстваў, а, значыць, міліцыі яшчэ няма чаму радавацца.**

**Якасна мяняецца характар эканамічнай злачыннасці. Дзейнасць ценявікоў, якія знайшлі сабе прытулак пад шыльдамі біржаў, камерцыйных і іншых структур, што нараджаюцца ледзь не кожны дзень, прымае пагрозлівыя маштабы.**

АВІЯЛІНІІ

## ІЗРАІЛЬ ТАК БЛІЗКА

**Усяго 3 гадзіны і 20 мінут спатрэбіцца цяпер тым, хто ад'язджае з Беларусі ў Ізраіль, калі яны скарыстаюць паслугі авіяслужбы. 18 лютага ў сталіцы рэспублікі адкрыўся новы авіярэйс Мінск — Тэль-Авіў, які адразу ўзяў на сябе клопат аб перамяшчэнні каля 100 пасажыраў. Бясплатныя білеты будучым жыхарам Ізраіля прадаставіла сусветнае яўрэйскае агенцтва «Сохнут». Як паведаміў карэспандэнту БЕЛТА яго пастаянны прадстаўнік у рэспубліцы пан Доў Шарфштэйн, паміж Беларуссю і Ізраілем штомесяц плануецца два прамыя авіярэйсы. Пры неабходнасці іх колькасць будзе павялічана.**

КАЛЯНДАР

## ДВАНАЦЦАЦЬ КНЯЗЁЎ

**З дванаццаццю князямі Вялікага княства Літоўскага пазнаёміцца тыя, хто набудзе каляровы плакат-каляндар на 1992 год, які выпусціла народнае прадпрыемства «Альберцін» са Слонімшчыны.**

**Пад выявамі князёў — гады іхняй дзейнасці, а ў сярэдзіне плаката размешчана карта Вялікага княства Літоўскага XIII—XV стагоддзяў. На плакаце ёсць нацыянальны герб «Пагоня», бела-чырвона-белая стужка і каляндар на 12 месяцаў.**

*«Лічу, што ў краіне ідзе старанная, усебаковая, добра плануемая падрыхтоўка контррэвалюцыі, падрыхтоўка арганізаванага выступлення супраць дэмакратыі.*

*Дзве галоўныя сілы рыхтуюць удар. З аднаго боку, гэта камуністычныя фундаменталісты, горшая частка былой КПСС. Тыя, хто перафарбаваўся ці нават не перафарбаваўся, калі ўзяць РКРП і карыкатурны «кабінет» з Сяргеевым і Макашовым, якія прапаноўваюць людзі рэваншу. Другая сіла — рускі фашызм, пра небяспеку якога я гаварыў яшчэ на лютаўскім пленуме ЦК КПСС 1990 года. Гэта сіла не камуністычнага толку, у яе свае лозунгі, мэты і планы. Але ёсць логіка падзей. Тым і другім трэба зваліць дэмакратыю, што нараджаецца, і яны змыкаюцца. Контррэвалюцыя рэкрутуе не народ, а люмпенаў, маргінальных людзей, дэкласаваныя элементы з усіх слаёў грамадства. Але вось што небяспечна: гэтыя людзі, вельмі многія з іх, падфарбаваліся пад дэмакратаў. Яны сядзяць і на Старой плошчы, і ў «Белым доме», і ў Крамлі.*

*Могуць спытаць: навошта гэта дэмакратам, няхай нават тым, якія перафарбаваліся,— яны ж ужо ўселіся ў новыя крэслы? Ды па той прычыне, па якой была патрэбна і змова гэкачэпістам. Навошта яна Крючкову, Янаеву, Язаву? Ці Пайлаву? Не думаў жа ён стаць двойчы прэм'ерам? Яны баяліся, што дэмакратыя, умацаваўшыся, не пакіне месца для такіх, як яны. Вось і цяперашнія лжэдэмакраты разумеюць, што калі рэформы пойдуць наперад, то ім у апараце ўлады рабіць не будзе чаго. Яны выдатныя палітыкі і стараюцца саломкі падсцяліць своечасова».*

*Акадэмік Станіслаў ШАТАЛІН.*

МІЖНАРОДНЫЯ ВЫСТАЎКІ




**У выставачным комплексе «Мінскэкспа» працавала міжнародная выстаўка «Салон прыгажосці-92». Сярод яе ўдзельнікаў — шэраг буйных замежных фірм, якія вырабляюць касметычныя і парфумерныя тавары, у тым ліку буйнейшы канцэрн Еўропы «Хенкель».**

**За час работы выстаўкі былі заключаны здзелкі на пастаўку ў Рэспубліку Беларусь касметычных тавараў і медыкаментаў.**

**НА ЗДЫМКУ: прадстаўнік фірмы «Хенкель» Удо ФАЙН знаёміць наведвальнікаў з вырабамі фірмы.**

ВЕРНУТЫЯ ІМЁНЫ

## 100-годдзе КСЯНДЗА А. СТАНКЕВІЧА

**У касцёле Святой Тройцы на Залатой Горцы ў Мінску ўшаноўвалася 100-годдзе з дня нараджэння ксяндза Адама Станкевіча. Пра жыццё і дзейнасць яго як святара расказаў прысутным пробашч касцёла ксёндз Міхал. Гісторык Анатоль Сідарэвіч спыніўся на іншым аспекце —дзейнасці А. Станкевіча як лідэра Беларускай хрысціянска - дэмакратычнай злучнасці. Літаратуразнаўца Алесь Бяляцкі прадставіў перавыдадзеную Беларускай каталіцкай грамадой кнігу А. Станкевіча «Беларуская мова ў святынях».**

ПРАГНОЗЫ

## ПРЫВІД КРАХУ

**Эканоміка Беларусі на працягу квартала можа поўнасцю разбурыцца — такі прагноз вынікаў прынятага ў рэспубліцы пакета законаў аб падаткаабкладанні далі вучоныя Інстытута эканомікі Акадэміі навук РБ і некаторыя прадстаўнікі дзелавых колаў. Прадпрымальнікі сталі менш прапаноўваць тавараў і паслуг для насельніцтва. Сярод прычын — прыкметнае зніжэнне колькасці кааператываў, якія выпускаюць спажывецкія тавары, дзейнічаюць у сферы грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання, а таксама непамерны рост цэн на матэрыяльна-тэхнічныя рэсурсы.**

**Многія цяпер разглядаюць Беларусь як зону, несрыяльную для прадпрымальніцтва, і актыўна вывозяць не толькі тавары, але і капіталы. Гэтаму, на думку інстытуцкай групы экспертаў, садзейнічае і даволі высокая ступень карумпіраванасці мясцовых і іншых органаў улады.**

НЕ ДАПУСЦІЦЬ РАСКОЛУ НАЦЫІ

# АДКРЫТЫ ЛІСТ ДЭПУТАТАМ ПІНСКАГА ГАРСАВЕТА

**Як мы ўжо паведамлялі («Голас Радзімы» № 6 ад 6 лютага г. г.), у Брэсце намагаюцца стварыць Заходне-Палескую партыю, якая ставіць на мэце аўтаномію т. зв. Заходне-Палескага краю, а культурная суполка «Полісьсе» патрабуе статуса дзяржаўнай мовы для палескага дыялекту. Гэтая з'ява — адбітак сепаратысцкіх памкненняў, і яна не можа не трывожыць беларусаў. Ніжэй мы друкуем Адкрыты ліст Ніла ГІЛЕВІЧА.**

Паважаныя дэпутаты!

Колькі гадоў назад група асоб, ураджэнцаў беларускага паўднёва-заходняга Палесся, распачала, дый вельмі апантана, весці сярод насельніцтва рэспублікі работу, канчатковая мэта якой — раскол адзінай беларускай нацыі, расчляненне адзінай цэласнай тэрыторыі Беларускай Дзяржавы. Задума гэта настолькі безадказная, што проста жахліва ўявіць, да чаго яна можа прывесці, калі вар'яцкую — іначай не назавеш — дзейнасць па яе ажыццяўленню сёння не спыніць разумнай воляй грамадскасці.

Спосаб, які выбралі для дасягнення мэты гэтыя безадказныя, не ў меру амбіцыйныя і эгацэнтрычныя асобы, — абвяшчэнне заходне-палескага дыялекту асобнай славянскай мовай, а жыхароў гэтага рэгіёна — асобным народам, пры гэтым нічога разумнейшага не прыдумалі, як назваць жыхароў паўднёва-заходняга Палесся яцвягамі, а іх мову — яцвяжскай. (Да ведама недасведчаных: яцвягі — даўно адмерлае племя неславянскага паходжання, родныя браты прусаў, жамойцаў і іншых прыбалтыйскіх плямёнаў). Я не маю зараз магчымасці аргументаваць, наколькі беспадстаўныя гэтыя іхнія сцвярджэнні, і таму прашу вас звярнуцца ў Акадэмію навук Беларусі — у Інстытут гісторыі і Інстытут мовазнаўства за афіцыйнымі даведкамі, — а пакуль не прымаць пытанне, пастаўленае аб'яднаннем «Полісьсе», да разгляду на сесіі. За ўсёй шуміхай наконт асобнага этнасу і асобнай мовы стаяць палітычныя мэты, вельмі небяспечныя для нацыянальнай згоды і міру, і тояцца пэўныя, варожыя нашаму адзінаму беларускаму народу, сілы. Тое, што не ўдалося гэтым сілам здзейсніць раней, яшчэ даўно, іх пераемнікі наважыліся зрабіць цяпер, — разарваць нашу пакутніцу Беларусь на часткі. На вялікі жаль, многія грамадзяне не разумеюць сапраўдных вытокаў гэтых небяспечных задум і намаганняў. Вядома ж, трэба захоўваць этнічна-культурныя і моўныя асаблівасці жыхароў Палесся, мясцовыя традыцыі, звычаі, фальклор, народныя промыслы і г. д., але — без замаху на нацыянальна-тэрытарыяльнае адзінства і цэласнасць Беларусі.

Ні ў якім разе нельга дапусціць развіцця падзей у тым напрамку, дзе нас усіх можа чакаць не толькі вялікая смута, але і вялікая трагедыя, бяда і гора. Нядобрыя людзі ўводзяць у зман жыхароў Пінска і іншых гарадоў Палесся, спяшаюцца выкарыстаць сітуацыю, калі аслаблена воля Дзяржавы і можна тварыць, што хочаш, — у тым ліку і разбураць гістарычна замацаванае — за доўгія стагоддзі — адзінства беларускага народа і Беларусі.

Не дапусціце гэтага, шаноўныя дэпутаты!

**Ніл ГІЛЕВІЧ,**
**старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны, народны паэт Беларусі, прафесар.**

# АРКАДЗЬ СМОЛІЧ: ПАКАЗАННІ НА ДОПЫТАХ

**От 9.VII.1930 г.**

От работы в НКЗеме я стал отрываться еще с осени 1923 г., когда президиум ЦИК поручил мне для своего издания «Беларусь» срочно написать большую статью об экономическом положении Белоруссии в дореволюционную эпоху. Для этой цели я был освобожден от работы в НКЗеме на 1 1/2 или 2 месяца. Затем в январе 1924 г. НКПрос командировал меня, как географа, на Всесоюзную Краеведческую конференцию. По приезде с последней я организовал Центральное Бюро Краеведения БССР и был назначен его председателем. За 1924 г. — под моим руководством — ЦБ Краеведения провело две краеведческие конференции — Всебелорусскую и Минскую, что ускорило развертывание краеведческой сети на местах.

Весною 1924 года Инбелкульт по моему предложению созвал конференцию почвоведов, работавших тогда в Белоруссии...

В апреле 1924 года Госплан пригласил меня для проведения в срочном порядке районирования укрупненной Белоруссии. Я был назначен секретарем комиссии по районированию, которой непосредственно руководил Пред. Совнаркома т. АДАМОВИЧ, а его заместителем был ДЫЛО. Вместе с последним мы и провели основную работу по этому вопросу. Я дал целый ряд вариантов окружного деления, из которых СНК по моему докладу выбрал деление на 10 округов...

К постоянной работе по НКЗему я уже больше не вернулся. Кажется, только в конце года я принимал участие в разработке проэкта журнала «Плуг». По моей мысли журнал должен был заменить собою на местах агронома и притом агронома, ведущего пропаганду на белорусском языке, что тогда было редкостью...

Районирование, по-видимому, было проведено удачно; об этом говорит постановление СНК, коим вынесена мне и ДЫЛО революционная благодарность за эту работу. Вскоре последовало назначение обоих нас в Инбелкульт, который тогда реформировался в солидное научное учреждение с постоянным штатом. Я был назначен Зам. Председателя Института, а ДЫЛО его научным секретарем...

Председатель ИБК В. М. ИГНАТОВСКИЙ тогда был наркомпросом и не мог уделять достаточно внимания ежедневной работе, которая и была возложена на меня и на ДЫЛО.

С этого времени (январь 1925 г.) я совершенно оставляю НКЗем и перехожу на работу в Инбелкульт...

Имя Инбелкульта тогда было очень популярно в массах как яркое достижение Советской Белоруссии.

Однако мало было рекламировать Институт, надо было его и строить. От старого периода осталось ряд секций, в которые теперь влился целый ряд новых членов ИБК, преимущественно ответственных партийных работников. К сожалению, последние появлялись в секциях довольно редко и руководство работой осталось по-прежнему в руках националистической интеллигенции...

Кроме секций в то время уже начиналась организация постоянных штатных органов — комиссий. В начале комиссии основаны были главным образом по гуманитарным дисциплинам. Я прилагал усилия, чтобы организовать подобную работу по природе...

Лично же мною было организовано составление сельскохозяйственной терминологии, для которой я дал основной текст. Наиболее значительным событием в жизни с. хоз. Секции в 1925 г. было ее участие в организации Сельскохозяйственной Академии в Горках. ГРАБОВСКИЙ — секретарь с. хоз. секции, одновременно и инспектор с. хоз. образования в Наркомпросе, получил задание от НКПроса составить проэкт заполнения штатов Академии с возможно большим усилением там количества белорусских работников с целью ускорения белорусизации Академии, как найближе стоящей к работе в деревне высшей школы...

Остающееся от работы в Инбелкульте время я использовал для подготовки к печати своего «Краткого курса Географии Белоруссии», заказанного мне Белгосиздатом для выполнения в срочном порядке. Учебник этот был построен на основе более обширной моей работы, изданной в Вильне в 1919 г. и затем 2 раза там переизданной, благодаря невнимательности цензуры. Несмотря на свою националистическую окраску, книга была запрещена в Польше, а в Латвии за ее распространение ряд белорусских культурников (Красковский, Мядзелка и др.) даже обвинялся в государственной измене и был брошен в тюрьму на полтора года. Для Белгосиздата я совершенно переработал эту книгу, но все же в нее попало несколько националистических мест, отмеченных в свое время тов. КРИНИЦКИМ...

В начале 1926 года в Инбелкульт был назначен второй Зам. Председателя т. КОРЕНЕВСКИЙ, который принял на себя значительную часть моих обязанностей в области организационной и административной. До сих пор Инбелкульт мало внимания уделял Издательству. Работал там ГРОМЫКО, но без большого успеха. Президиум БИК поручил мне заняться этим делом вплотную. Я организовал издательскую Коллегию с постоянным штатом, где работали стильредакторами ЩЕПОТИХИН и КРАСИНСКИЙ. Подготовка материалов, благодаря этому, была сдвинута с места, а понемногу начала выходить и печататься продукция ИБК. В том же году были изданы труды почвенной конференции, несколько терминологических сборников, моя книга о районных типах крестьянского хозяйства (о ней см. в прежних показаниях), Скорининский сборник и др. Согласно постановлению Краеведческой конференции, мною был разработан проект краеведческого журнала «Наш Край», для редактирования которого был привлечен писатель БЯДУЛЯ. Следует отметить, что журнал этот наряду с инструктированием краеведов о методах изучения района играл впоследствии известную роль в смысле усиления националистических настроений на местах...

Было ясно, что без собственной Академической типографии Инбелкульту обойтись невозможно. Я поднял этот вопрос в Президиуме ИБК, а затем много усилий потратил на его проведение через различные инстанции, которые относились к этой идее отрицательно (напр. Госплан). Когда, наконец, получилось разрешение, я приступил к организации самой типографии на основе купленного Инбелкультом от Политотдела Дивизии небольшого коммерческого предприятия. Только к концу 1926 г. Академическая Типография, снабженная необходимым оборудованием, начала работать...

В конце 1926 года состоялась Академическая Конференция, в которой я участвовал как зам. Пред. ИБК в составе Президиума.

Во время конференции мчою было подписано вместе с рядом других участников заявление о латинском алфавите, что считаю своей крупной ошибкой.

Из других видов моей деятельности того времени следует отметить работу по университету. Начал я там преподавать географию еще в 1923 году, организовал географический кабинет. С каждым годом моя вначале небольшая нагрузка по университету увеличивалась. В начале 1927 года я был избран профессором Б. Г. Университета по кафедре географии.

Из литературных работ, относящихся к 1926 году, следует отметить статью «Селянство в Западной Белоруссии», помещенную в специальном сборнике. Статья эта посвящена анализу социально-экономических отношений в западно-белорусской деревне и написана с применением марксистского метода...

Основной идеей, руководившей мною за это время, следует считать идею создания Белорусской Академии Наук; я считал это исторической задачей, возложенной правительством на Инбелкульт и, в частности, на меня лично, как его ответственного работника. Я придавал этой задаче большое значение, т. к. считал, что создание Академии завершит процесс национально-культурного возрождения Белоруссии и поставит ее, совсем еще недавно нищую и темную, в ряд передовых культурных стран мира. За эту идею я и боролся изо дня в день в гораздо большей мере, чем это от меня требовалось; исходя из нее, я содействовал собиранию и организации в научных учреждениях белорусских националистических элементов, что помогало им укрепить свое влияние в научной и практической работе. Над классовыми результатами этой своей деятельности я тогда, к сожалению, не задумывался...

**От 15.VII.30 г.**

По поводу пред'явленных мне обвинений в контрреволюционной деятельности и вредительстве имею заявить следующее:

Большинство предъявленных обвинений не соответствуют действительности. Прежде всего о существовании контрреволюционной организации «СОЮЗ ВОЗРОЖДЕНИЯ БЕЛОРУССИИ», ее целях и деятельности мне ничего не известно. Правда, несколько лет назад в разговоре со мной КРАСКОВСКИЙ говорил о необходимости «белоруссам» организоваться, не определяя задач и целей такой организации: я тогда-же дал ему резкий отпор, назвав эту идею в высшей степени вредной прежде всего для самой национально-культурной работы в БССР. После этого больше подобные темы в разговоре со мной им не поднимались.

Лично я в своей деятельности за 8 лет пребывания в Советской Белоруссии никогда не ставил себе целью борьбу с Соввластью и тем более реставрацию Белорусской Народной Республики и отторжение ее от Сов. Союза...

**Аляксей КАРОЛЬ, Уладзімір МІХНЮК.**

(Працяг будзе).

*ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ*

## АДБУДУЕМ СТАРЭЎСКІ ШКЛЯНЫ ЗАВОД

Уявіце сабе, што вы знаходзіцеся ў лесе. Перад вамі ціхая лясная ручаіна. Вада нібы заснула і цешыцца тым, што ў яе, як у люстэрка, пазіраюць высокія дрэвы. Гэтак спакойна таму, што ручаіна наскочыла на невялікую, але даволі высокую заслону і абагнула яе з усіх бакоў. У лясной глушы ў выглядзе правільнага круга атрымаўся дзівосны астравок. На ім стаяць, як і вакол ручаіны, высокія дрэвы, а сярод іх мноства ягадных кустоў. Калісьці тут быў масток, па якому можна было падняцца на востраў і пасядзець пад дрэвамі, паслухаць галасы птушак. Але тое было вельмі даўно...

Калі спусціцца ўніз па беразе лясной прыгажуні, на шляху з'явіцца спачатку густы кустарнік, потым вялікая паляна з мноствам траў і кветак, а далей сялянскі шлях пасярэдзіне зарослых копаў. Прайшоўшы па шляху, можна было ўбачыць стромкія яліны, што нібы выстраіліся ў адзін радок і ўтварылі прамавугольнік, унутраная частка якога была маёнткам. Гэта мясціна мела славу найпрыгажэйшай на Случчыне. Але было гэта да Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Спытайцеся ў случчакоў сёння, дзе гэтая мясціна, нават жыхар Амговіцкага сельскага Савета не здолее адказаць. Савецкія ўлады зрабілі ўсё, каб не засталося ў памяці людзей ніякіх звестак, бо гэта мясціна знаходзілася поплеч са Старэўскім шкляным заводам, якога не стала пасля рэвалюцыі. Разбурылі, знішчылі.

Цяпер на тым месцы адны ямы, у якіх знаходзяць шмат рэштак шкла рознай формы. Няма маёнтка. Будынак, як і высокія яліны, вывезены ўжо пасля Айчыннай вайны ў іншую мясціну. Вёску Старэва пачалі называць па волі ўлад вёскай Купішча. Жыхары раз'ехаліся па ўсім свеце. Не засталося ні завода, ні маёнтка, ні вёскі, ні людзей. Толькі зарослая ручаіна і астравок нагадваюць, што тут некалі бруіла жыццё. На вялікі жаль, усё менш людзей памятаюць пра гэтую мясціну. Няма ніякіх звестак пра шкляны завод ні ў Слуцкім краязнаўчым музеі, ні ў музеях Мінска.

Вось таму і хочацца мне, случчаку, звярнуцца да сваіх землякоў. І да тых, хто жыве на Случчыне, і да тых, хто далёка ад яе. Да ўсіх, каму дарагія родныя мясціны. Давайце адбудуем Старэўскі шкляны завод. Там ёсць патрэбны пясок. Замест былой вузкакалейкі вельмі блізка праведзена чыгунка. Успомніце гісторыю Случчыны: старэўскі шкляны посуд быў экспанатам многіх замежных выставак. Зробім жа ўсё, каб ён зноў трапіў на такія выставы.

**А. КОРБУТ.**

## БРАТ ПРЫСЯГНУЎ БЕЛАРУСІ

Паважаная рэдакцыя!

Пішу вам упершыню аб падзеі, якая мяне вельмі ўразіла.

Мой брат Саша — вайсковец. Ён сувязіст. Разам з татам і мамай я ездзіла да яго. У той дзень неяк не па-зімоваму весела свяціла сонца. З вышыні яно пазірала на рады вайскоўцаў, застыўшых ля Вечнага агню. У Мінску, у раёне Леўкаўшчыны, на гэтым месцы ў гады нядаўняй вайны было 80 000 байцоў і цывільных. Так было напісана на помніку ахвярам вайны.

Саша першым са свайго падраздзялення прымаў прысягу. З расчырванелым ад хвалявання тварам, звонкім і крыху дрыготкім голасам ён перад сваімі таварышамі па зброі зачытаў тэкст прысягі. Потым пацвердзіў свае словы подпісам.

Я прысутнічала пры гістарычнай падзеі. Упершыню за многія гады беларускія хлопцы ў шынялях і з аўтаматамі прысягалі на беларускай мове. Упершыню яны прысягалі ўраду незалежнай Рэспублікі Беларусь. Потым быў мітынг. Было сказана многа добрых слоў. На заканчэнне вайскоўцы зухавата прамаршывалі па пляцы. Камандзір дазволіў Сашу пабыць з намі некалькі гадзін. Мы знаёміліся з Мінскам, елі марожанае, мандарынкі, куплялі жвачкі.

Было весела і хораша.

**Святлана ГАВАРУШКІНА.**

г. Магілёў, СШ № 18.

## НЯХАЙ БУДЗЕ ПАЧУТА МАЛІТВА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

...На адкрыццё рэканструяванага будынка і на яго асвячэнне прыехаў настаяцель храма Рускай славы айцец Фёдар.

Нам удалося пагутарыць з ім. Нарадзіўся Фёдар Пятровіч Поўны (свецкае імя) на Гомельшчыне ў вёсцы Сялец.

— Цяпер яна знаходзіцца ў зоне адсялення — трапіла пад чарнобыльскую катастрофу, — з горыччу расказвае айцец Фёдар.

— Ці не гэта з'явілася галоўным пры рашэнні аказаць дапамогу шматпакутнай Беларусі? — спыталі мы ў настаяцеля храма-помніка.

— Не, — быў адказ. — Наш ордэн аказвае дапамогу ўсім людзям зямлі, якія трапілі ў бяду. Няхай гэта будзе землетрасенне ці паводка, засуха ці іншая экалагічная катастрофа. Малітву нашу чуюць паўсюль. Калі мы звярнуліся да грамадзян Германіі з прапановай дапамагчы беларускаму народу, то адгукнуліся і праваслаўныя, і каталікі, і людзі іншых веравызнанняў. Усяго ў вашу рэспубліку было адпраўлена больш 150 тон медыкаментаў, прадуктаў харчавання.

Адно засмучае айца Фёдара: немцы яшчэ дрэнна ўяўляюць сапраўдныя вынікі чарнобыльскай катастрофы, многія лічаць, што яна ў асноўным закранула тэрыторыю Украіны. А гэта не так. Каля сямідзесяці працэнтаў тэрыторыі, якая пацярпела ад чарнобыльскага атама,— зямля Беларусі.

...У сценах радзільнага аддзялення айцец Фёдар маліўся за людзей усіх нацыянальнасцей, каб яны ніколі больш не ведалі гора і тых пакут, што зведаў наш народ. Няхай будзе гэта малітва пачута.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

*ГІСТОРЫЯ БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ*

# ВЫЗВАЛЕННЕ ЦІ НЯВОЛЯ?

## 1939 ГОД — У НАШАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СВЯДОМАСЦІ

### VI

Антон Луцкевіч быў бясспрэчным лідэрам заходнебеларускага грамадства. Яго арышт мог азначаць, што камуністы трактуюць усё заходнебеларускае насельніцтва без выключэння і без падзелу на класы ў якасці варожай аднастайнай антысавецкай масы. Таму гэты арышт ні ў якім разе не павінен быў пасеяць сумненне ў некаторых пракамуністычных ілюзіях. беларускага насельніцтва, не лавінен быў падарваць веру беларусаў у магчымасць будаўніцтва ўласнага нацыянальнага дому ў варунках нарэшце аб'яднанай бацькаўшчыны.

Іван Клімаў успамінаў, што ён асабіста і ягонае энквавэдыскае акружэнне абсалютна не разлічвалі на тое, што такі вядомы і паўсюдна шанаваны нацыянальны лідэр, як Антон Луцкевіч, запрапануе супрацоўніцтва савецкім уладам, і таму пачаткова было прынята рашэнне не адмаўляцца ад гэтай прапановы і паспрабаваць выкарыстаць яе для заваявання сімпатый заходнебеларускага насельніцтва. Паводле Клімава, ён нават спецыяльна ездзіў у Менск з прапановаю зрабіць Антона Луцкевіча народным дэпутатам у Заходнебеларускі нацыянальны сойм, каб прыдаць гэтай эфемернай арганізацыі палітычную вагу. Ніхто не змог бы лепей за Луцкевіча выконваць ролю старшыні сойму, і ніхто не мог лепей за яго выступіць перад усім светам з абгрунтаваннем ідэі беларускага адзінства, ідэі здзяйснення адвечных мар беларускага народа аб аб'яднанні ў варунках савецкай сацыялістычнай дзяржавы.

Ідэя выкарыстання Антона Луцкевіча ў мэтах шырокамаштабнай кампаніі падману беларускага народа ў Менску падабалася. У ЦК КПБ Клімава нават пахвалілі, але аднесліся да яго планаў стрымана. Тлумачэнне гэтага даволі простае: у Менску, відаць, ужо ведалі, што Вільню прыйдзецца аддаць, што не будзе сталіцы Заходняй Беларусі ў старадаўняй колішняй сталіцы Вялікага княства Літоўскага. Даведаўся аб сталінска-гітлераўскіх планах перадачы Вільні Літве і Клімаў. Даведаўся тады якраз, калі ён ужо распачаў кампанію выкарыстоўвання заходнебеларускіх палітычных лідэраў у мэтах савецкай прапагандысцкай машыны. Клімаў быў пастаўлены перад дылемай: альбо пакінуць беларускіх дзеячаў у літоўскай Вільні і даць ім магчымасць дзейнічаць у варунках адносна дэмакратычнай дзяржавы, альбо ўзнавіць выкананне першапачатковых планаў татальных рэпрэсій супраць Віленскага беларускага цэнтра. Клімаў напэўна не займаў бы такой высокай наменклатурнай пасады, калі б ён завагаўся ў гэтым выпадку і паспрабаваў паддацца эмоцыям. Таталітарызм сталінскага тыпу якраз прадугледжвае ўжыванне шырокамаштабных прэвентыўных рэпрэсій. Літасць тутака ўсялякая выключаецца. Лепш пакараць дзесятак альбо сотні нявінных, чым пакінуць у спакоі аднаго, з пункту гледжання ўлад, вінаватага. Вось чаму ў Клімава і не было ніякіх ваганняў адносна правядзення адпаведнага варыянта плана рэпрэсій. Каб захаваць свой ідэалагічна чысты рахунак нязломнага камуніста, ён павінен быў поўнасцю выканаць заданне і хутка распачаць чыстку Вільні, бо ўжо вымалёўваўся адыход Чырвонай Арміі з Вільні і Віленшчыны.

Антона Луцкевіча арыштавалі ўначы з 26 на 27 верасня, арыштавалі паціху, без залішняга шуму. Спадзяваліся, што ў варунках паўсюднай завірухі беларускае грамадства не адрэагуе на яго знікненне, што можна будзе выдаць яго арышт за ўцёкі Луцкевіча ў Літву, тым больш, што шлях на Коўна быў у гэты час шляхам многіх беларусаў, якія да канца разумелі сутнасць савецкай сістэмы. Але так не сталася. Луцкевіч быў настолькі вядомым і аўтарытэтным чалавекам, што ягоны лёс не мог быць не заўважаным сярод беларусаў.

Іван Клімаў успамінаў, што ўжо на другі дзень да яго з'явілася дэлегацыя мясцовых беларусаў з запытаннямі аб лёсе свайго лідэра. Асаблівае ўражанне зрабіў на яго візіт маладой дзяўчыны, музейнай супрацоўніцы Луцкевіча, якая са слязамі на вачах прасіла яго выявіць сапраўдны лёс апошняга дырэктара беларускага музея ў Вільні. Клімаў прызнаваў, што яму па-чалавечаму было шкада Луцкевіча, што пасля гэтага арышту ён зразумеў, якой сімпатыяй, аўтарытэтам карыстаўся Антон Луцкевіч сярод віленчукоў. Але ён павінен быў застацца і застаўся да канца верны сваёй ролі ка́та беларускага віленскага грамадства. З задавальненнем і нават адпаведнай доляй зларадства апавядаў ён пра свае сустрэчы са збянтэжанымі людзьмі. Нават у гэтай, здавалася б, адназначнай сітуацыі ён спрабаваў нахабна падманваць людзей, спрабаваў абяляць акупацыйны рэжым. На пытанне аб лёсе Антона Луцкевіча Клімаў адказваў, што яму нічога не ведама, што напэўна Луцкевіч недзе выехаў па ўласных справах. Але найбольшае наша абурэнне павінен выклікаць факт, што Клімаў абяцаў гэтым наіўным беларусам высветліць справу, адшукаць загінуўшага чалавека. А ўсяго дзень таму назад ён сам аддаў загад палкоўніку Пятрову арыштаваць Луцкевіча і перадаць яго карным органам НКУС Беларускай ССР.

Была яшчэ адна справа, за якую Івану Клімаву праз шмат гадоў было ў нейкай ступені сорамна (калі аб падобных катэгорыях пачуццяў у дачыненні да яго ўвогуле можна гаварыць). Справа гэта была звязана з арыштам Луцкевіча. Клімаў і яго каманда вырашылі пасля расправы з дырэктарам Віленскага беларускага музея расправіцца і з музейнымі фондамі. Быў аддадзены загад парыхтаваць музей да эвакуацыі ў БССР. Маўляў, экспазіцыя яго павінна належаць беларускаму народу. Але ў паспеху ўсяго забраць не здолелі. Нарабавалі самае каштоўнае: старыя беларускія кнігі, калекцыю старажытных манет, старую сярэдневяковую зброю і інш. Усё гэта было пагружана ў чыгуначныя вагоны і накіравана ў Менск. Да Менска, аднак, дайшло не больш паловы нарабаванага. На злодзея знайшоўся другі, больш прымітыўны злодзей. Разрабаваны і панішчаны былі кніжкі, пакрадзены манеты... Большасць гэтых велізарных каштоўнасцяў нашага народа загінула назаўсёды. Іншыя разышліся па музеях Беларусі і ўсяго свету, і сёння практычна немагчыма выявіць іх паходжанне.

Антон Луцкевіч стаў яшчэ адной ахвярай сталіншчыны. Ён загінуў у савецкіх засценках. Аднак абставіны яго гібелі да сённяшняга дня не выяўлены. Гісторыкі па гэтаму пытанню маюць некалькі гіпотэз. Дзякуючы сведчанням Клімава, новы свет на гэтае здарэнне маю магчымасць праліць і я.

Мы ніколі не мелі, не маем, ды і наўрад ці будзем мець магчымасць пазнаёміцца з гэбэшнымі дакументамі, якія датычаць лёсу Антона Луцкевіча. Так што высветліць ягоны лёс з гістарычнай дакладнасцю, на жаль, яшчэ немагчыма. Але мы маем у нашым распараджэнні сведчанні людзей, якія прайшлі гэты жахлівы шлях разам з Антонам, ёсць і шматлікія пасрэдныя факты, што дазваляюць нам рабіць адпаведныя прыпушчэнні і вывады.

Пасля арышту Антон Луцкевіч быў спачатку накіраваны ў Вілейскую турму. Быў гэта нармальны традыцыйны шлях усіх арыштаваных у Вільні беларусаў. Частка з іх (менш важныя асобы) па рашэнню савецкіх улад так і засталася да прысуду ў Вілейцы. Там адбывалася следства, пазней пасяджэнне калегіі ваеннага трыбунала альбо надзвычайнай нарады, так званай тройкі. Там выносіўся ім прысуд, звычайна прысуд страшэнна цяжкі і несправядлівы. Аднак найбольш важных вязняў, і ў першую чаргу Антона Луцкевіча, накіравалі ў Менск, дзе і адбывалася следства па іх справе. У Менску ў сумна вядомым астрогу па вуліцы Валадарскага стваральнік Беларускай Народнай Рэспублікі прасядзеў амаль 18 месяцаў: ад лістапада 1939 года да чэрвеня 1941. Прысуд у яго справе быў вынесены асобай нарадай пры НКУС СССР (падкрэсліваю, СССР, а не БССР) толькі 14 чэрвеня 1941 года, за тыдзень да пачатку вайны паміж гітлераўскай Германіяй і сталінскім Савецкім Саюзам. Адразу ўзнікаюць два пытанні. Першае: чаму следства па яго справе цягнулася так доўга? І другое: чаму вынесены прысуд (6 гадоў папраўчай працы ў лагеры) быў такі лагодны, як на сталінскія варункі?

Першая праблема тлумачыцца тым, што перад савецкімі следчымі органамі знаходзіўся, бадай што, найбольш вядомы палітычны лідэр Заходняй Беларусі, чалавек, які ўвасабляў сабой ідэю незалежнасці беларусаў. Ён дасканала ведаў гісторыю беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Асабіста ведаў амаль усіх яго правадыроў, у тым ліку і тых, каму ўдалося пазбегнуць арышту і схавацца альбо ва ўсё яшчэ незалежнай Літве, альбо ў нямецкай зоне акупацыі. Каб выцягнуць ад Луцкевіча ўсе ягоныя велізарныя веды пра Заходнюю Беларусь, патрэбны быў час, а часу гэтага савецкія следчыя мелі досыць. Можна прыпушчаць, што ў выніку следства паўсталі даволі цікавыя матэрыялы па гісторыі вызваленчай барацьбы беларускага народа, але ці калі-небудзь прафесійныя непартыйныя гісторыкі атрымаюць доступ да іх?

Што датычыцца адказу на другое пытанне аб адноснай лагоднасці прысуду, дык перыяд ад 1939 да 1941 года быў перыядам своеасаблівай палітычнай адлігі, звязанай з вылучэннем на пасаду народнага камісара ўнутраных спраў Лаўрэнція Берыі. Берыя па загаду Сталіна паспрабаваў нейкім чынам крыху стрымаць страшэнную машыну татальнага тэрору, каб партыя не захліснулася ў крыві сваіх ахвяр. Вось чаму напярэдадні савецка-германскай вайны адбылася першая хваля рэабілітацыі ваенных, савецкіх і партыйных працаўнікоў. Таму і прысуды ў гэты час выносіліся на дзіва лагодныя.

Падчас знаходжання Антона Луцкевіча ў Менскай турме адбыліся дзве надзвычайныя падзеі. У той атмасферы татальнага данасіцельства і здрады, калі выдавалася, што пільнае вока НКУС бачыць усё і ўсюды, Антону Луцкевічу ўдалося тайна накіраваць на волю два прыватныя лісты. Цяжка сказаць, якім чынам ён гэта ажыццявіў. Мабыць дапамог які-небудзь шчыры беларус — турэмны стражнік? Можа на смяротную рызыку пайшоў нехта са следчых? А можа НКУС свядома дазволіў (а можа і арганізаваў правакацыю), каб гэтыя лісты дайшлі да адрасатаў. На карысць апошняй версіі сведчыць тое, што лісты гэтыя былі адрасаваны Янку Купалу і Якубу Коласу, старым, яшчэ «нашаніўскім» прыяцелям Луцкевіча. З дапамогай падобнай правакацыі берыеўцы спакойна маглі шантажыраваць класікаў беларускай літаратуры, вымушаць ад іх патрэбныя рэжыму мадэлі паводзін і да т. п. Змест лістоў да былых нашаніўцаў быў амаль аднолькавы. Антон Луцкевіч не спасылаўся на даўняе сяброўства і былыя заслугі. Ён папросту інфармаваў іх аб тым, што ўжо амаль год знаходзіцца пад следствам, што ў хуткім часе яму будзе вынесены прысуд. Цікава, што ён абсалютна не спадзяваўся на справядлівы, аб'ектыўны прысуд. Ён быў упэўнены, што перад ім дарога на Усход, дарога на новыя надзвычай цяжкія выпрабаванні. Вось чаму ён і звяртаўся да сваіх былых сяброў з просьбаю дапамагчы яму перапрываць сібірскія выпрабаванні. Ён звяртаўся да Янкі Купалы і Якуба Коласа з просьбай даць яму цёплае адзенне, бо нічога цёплага ён з сабой з Вільні пры арышце не захапіў. Была гэта простая і даволі сціплая чалавечая просьба. Луцкевіч не прасіў літасці альбо заступніцтва. Сведчыць гэта выразна аб яго чалавечых якасцях, аб яго годнасці і нязломнасці. Вельмі цікава, аднак, як адрэагавалі на гэты ліст абодва класікі беларускай літаратуры. Рэакцыя іх была цалкам розная. Якуб Колас не адказаў зусім, так, як бы чалавека ў бядзе не існавала. Затое Янка Купала выканаў просьбу свайго колішняга сябра. Антон Луцкевіч у турме атрымаў цёплыя рэчы, у тым ліку ваўняныя шкарпэткі, валёнкі, фуфайку-ватоўку і да т. п. Як бачым, Купала да канца застаўся верны самому сабе.

**Мікола ІВАНОЎ.**

(Заканчэнне будзе).

*ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ*

# ХАЦЕЎ БЫ ЖЫЦЬ У ІНШАЙ РЭЧАІСНАСЦІ

ПАВАЖАНАЯ рэдакцыя «Голасу Радзімы»!

У мяне аж слёзы з'явіліся ў вачах, калі пачуў, што Беларусь ужо свабодная, а Савецкі Саюз рассыпаўся і Старшыня Найвышэйшай Рады Беларусі Станіслаў Шушкевіч сказаў, што варыянт новага саюза рэспублік без кардону для грамадзян парламент Беларусі ратыфікаваў галасамі 263 дэпутатаў і адзін толькі быў, каторы ўстрымаўся. Так што зычу ўсім беларусам, каб як найхутчэй увялі беларускую мову ў пачатковых школах і ва ўсіх установах, а не па-руску ўсюды. І каб у вышэйшых школах вучылі заходнія мовы, такія, як англійская, французская, нямецкая, ды і польская. Калі была дзяўчынка Оля з Гомля на канікулах у Польшчы, я пытаю: «Оля, чаму па-беларуску не гаворыш?» А яна кажа: «Мама казала, што непатрэбная гэта мова. Але, калі я заеду да бабулі ў сяло Церахоўка, то там гавораць па-беларуску. Дык па гэтым месяцы пачалі гаварыць і ў нас па-беларуску».

А цяпер, калі ўсё ўціхне, уладзіцца, не трэба будзе паддавацца асабістаму дагляду без ніякіх прычын, бо без культуры сёння адносяцца на беларускай таможні. Я хацеў бы жыць ужо ў іншай рэчаіснасці. Думаю, што будзе так, што ніхто не будзе мець прыкрасці з пашпартам ці пасведчаннем. Тады з жонкаю сядзем у цягнік і паедзем да Мінска, Брэста, Слоніма ці Гомля і будзем хадзіць па вуліцах горада, узяўшыся за ручкі, як дзеці. Усьміхацца будзем да ўсіх і гаварыць па-беларуску. А ад вас прыедуць да нас да Беластока, Бельска, Гайнаўкі, Ольштына ці Гданьска. Хацеў бы, каб гасціннасць выплывала з сардэчнасці, так кожнаму патрэбнай, а не са страху перад чужымі.

Ваш чытач С. Шчэрба з Англіі напісаў у «ГР» праўдзіва наконт уніяцтва, гэта рэальна, так ёсць. Калі каталіцкія ксяндзы, як місіянеры, зваляцца на ўсю Беларусь, тады людзі, атупленыя камунізмам, пачнуць хадзіць да касцёла і будзе унія другая. Праваслаўных бацюшкаў не вучылі, толькі сакратароў райкомаў, і мы, выходзіць, бязродныя. Трэба спыніць гэтае уніяцтва ва ўсёй Беларусі. І святарам трэба ўзяцца рукавы закасаўшы і выганяць камуністаў пад Маскву.

Я чытаю «Голас Радзімы» ўжо пяць гадоў і прашу, каб больш цяпер пісалі ў газеце пра дзеячаў беларускіх, як Зянон Пазьняк, лідэр, каторы змагаўся, каб была суверэнная Беларусь. Больш пішыце пра мову беларускую, культуру. Гэтага беларусы за мяжой чакаюць. І вуліцу, Ленінскі праспект, скасаваць трэба, каб яна не калечыла языка. Было б лепш, каб «Голас Радзімы» меў вуліцу беларускага дзеяча.

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК.**

Польшча.

**АД РЭДАКЦЫІ: Гэтае пісьмо прыйшло са спазненнем. Мяркуем, што спадару Гаўрылюку і іншым нашым суайчыннікам будзе прыемна даведацца аб перайменаванні многіх вуліц і плошчаў не толькі ў Мінску, але і ва ўсёй Беларусі.**

